# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 24 (276) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 11 ЧЭРВЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


# ПРАЙШЛО 16 ГОД

У Крывой людзі не змяніліся. Яны такія ж добрыя, ветлівыя і мілыя цяпер, як і 16 год таму назад, калі маёй бяздомнай сям'і гэтыя людзі далі прытулак, прынялі ў сваю вясковую брацьсардэчна і спачувальна. І я заўсёды, калі пападаю на крывянскую вуліцу, успамінаю той час, цяжкі зрэшты і для самай Крывой, на якой вайна пакінула сляды. І на спатыканьнях крывянскіх людзей не магу глядзець інакш, як на сваіх. Цешуся, што з іх боку таксама адчуваю сваяцкасць да мяне.

Так, людзі ў Крывой не змяніліся, але выгляд вёскі — вельмі! Асабліва выгляд гаспадарскіх будынкаў. Разбудавалася Крывая цудоўна! Расцягнулася ўздоўж сваімі новымі дамамі. На месцы поплава, што быў паміж вёскай і лесам, на якім 16 год таму я з сябрамі гуляла ў мяч, выраслі дамы. Крывянскі лес прыемны і багаты грыбамі, цяпер зусім зліўся з вёскай. На вуліцы, асабліва святам, безупынна траскацяць матацыклы. Што ж, прыемна і гонар праехацца вёскай на ўласным маторчыку, наставіўшы твар на вецер. Бачыла, неяк, як маладая дзяўчына ладзіла свой матацыкл, бо ў часе язды нешта там папсавалася. І не толькі моладзь хоча мець матацыклы. Вось сур'ёзны гаспадар зайшоў у хату на некалькі мінут і ўжо ўтапырыў вочы ў кнігу. Вучыцца весці матацыкл. Матараманія сталася шырокай і, галоўнае, рэальнай.

### СПУЛДЗЕЛЬНЯ

Палавіна гаспадароў у Крывой належыць да спулдзельні прадукцыйнай, якая добра развіваецца і, што найважнейшае, аказвае выхаваўчы ўплыў на вёску. Яна авангард прагрэсу і навейшых дасягненняў у сельскай гаспадарцы вёскі. І бадай дзякуючы гэта-

(Прадяг на стар. 4.).

### СВЯТЛІЦА

У сярэдзіне вёскі вырастае чырвонымі цэгламі будынак. Гэта будуецца святліца. Хочацца даведацца больш аб ёй: як і за што будуецца. Пытаю аб гэтым у людзей.

— Акрамя цэглы, усё іншае нашае і за нашыя грошы, — чую адказ.

— Як сабралі грошы? Раскажу па-парадку. Найперш выбралі камітэт будовы святліцы, які існуе і цяпер і каардынуе працу. Потым згадзіліся і зрэзалі ў сваім лесе 90 сосен, самі сабе прадалі і самі заплацілі сабе 15 тысяч злотых. Грошы ад самага пачатку прызначаліся на святліцу. Сваімі вазамі і рукамі зрабілі многа іншых работ. Не чакалі і не прасілі муляра, бо знайшлі яго сярод сябе. Пётр Курыга мае такія кваліфікацыі і муруе святліцу. Будова пачалася ў 1960 годзе восенню, а адкрыць ужо гатовую хочуць на «галавасека» (прыхадное свята — 11 верасня). У святліцы памесціцца бібліятэка, чытальня, будуць тут высвятляцца фільмы кінаперасоўкі.



Члены брыгады камуністычнай працы зборачнага цэха — настройшчыкі (злева направа): А. Русакоў, Л. Матро і Л. Рэўтовіч каля канвеера абмяркоўваюць рацыяналізатарскую прапанову для радыёлы «Беларусь — 59». (Да «Весткі з БССР»)

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



фота: Г. Рагазінскі

# ФІНАЛ КОНКУРСУ ДЛЯ МАСТАЦКІХ ГУРТКОЎ



Кіраўнік мастацкага гуртка з Пянькоў, Іван Азябла, з радыёпрыёмнікам «Прэлюдыум» (I узнагарода).

фота: Г. Рагазінскі

23 мая ў будынку Галоўнага праўлення нашага Таварыства ў Беластоку адбылося ўрачыстае ўручэнне ўзнагарод для мастацкіх гурткоў, якія ўдзельнічалі ў конкурсе — «Найлепшыя беларускія мастацкія гурткі ў грамадскай працы».

Мастацкі гурток у Пяньках (Беластоцкі пав.) абслужыў за час конкурсу 8 мясцовасцей і здабыў першае месца, за што атрымаў радыёпрыёмнік «Прэлюдыум» з адаптарам. Мастацкі гурток са Старога Ляўкова (Гайнаўскі пав.) абслужыў 9 вёсак; ён здабыў таксама першае месца за што атрымаў акардэон «Вельтмайстэр». Два другія месцы здабылі гурткі з Пілік (Бельскі пав.) і Семяноўкі (Гайнаўскі пав.), якія абслужылі за час конкурсу па 7 вёсак, за што атрымалі адаптары «Каролінка» з рэпрадуктарамі. Тры трэція месцы

(Прадяг на стар. 5)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ПЕРАД ПЕРШЫМ ВЫПУСКАМ

Пяты год існуе аддзяленне Беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце. У канцы чэрвеня універсітэцкія муры пакінуць яго першыя выпускнікі. Існаванне беларускай філалогіі — з'ява надта важная ў культурным жыцці беларускага насельніцтва ў Польшчы. Звязала з ёю свой лёс некалькі дзесяткаў перш за ўсё сялянскіх дочак і сыноў беларусаў з Беласточчыны, якія вернуцца ў свае аколіцы і будуць асветнымі і культурна-асветнымі работнікамі.

Сёння хочам падзяліцца з нашымі чытачамі больш важнымі весткамі з жыцця аддзялення Беларускай філалогіі ад пачатку яе заснавання да сёнчашняга дня. У сувязі з гэтым мы звярнуліся да загадчыка кафедры праф. др Антаніны Абрэмбскай - Яблонскай з некалькімі запытаннямі.

**— Пяць год — параўнальна вялікі адрэзак часу. І апраўданым будзе калі спытаем вас аб гісторыі заснавання аддзялення Беларускай філалогіі...**

— У 1954 г. я заініцыявала навукова - даследчыя працы ў беларускай галіне пры Польска - савецкім інстытуце ў Варшаве, арганізуючы аддзельную навукова-даследчую пляцоўку. Дарэчы, гэтая пляцоўка ў 1958 годзе была далучана да моваэнаўчага аддзялення Польскай акадэміі навук. Кіраўніком яе з'яўляюся я. Ад пачатку заснавання пляцоўкі скандэнтравана ўвагу на даследчых працах над беларускімі дыялектамі Беласточчыны і над выданнем песняў, сабраных М. Федэроўскім («Люд беларускі», V том). Ужо тады

(Працяг на стар. 5)

# ПЕРШЫ Ў ВЁСЦЫ

Мікола Самоцік не заўважыў нават, што імжыць дожджык. Ён падганяў коні, хутка хадзіў за плугам, а маці і дзве сёстры накладалі бульбу ў разоры. Усе спяшаліся, бо заўтра не будзе выкарыстаны конь. Коля ж паедзе да Варшавы як адзін з лепшых самадзейнікаў. Будзе выступаць на канцэрце, прысвечаным пятай гадавіне Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска - культурнага таварыства.

Любіць Коля мастацкую самадзейнасць. Ён прыгожа спявае і з'яўляецца адным з лепшых артыстаў Новакорнінскага драмгуртка, які вядомы ўжо на Гайнаўшчыне. Коля таксама захапляецца музыкай. Яна глыбока западае яму ў душу, кранае пачуцці. У школе ёсць скрыпка, на якой грае кіраўнік школы, Уладзімір Пракапюк. Коля да школы прыходзіць часта. На вечаровым курсе здабыў пачатковую адукацыю, а зараз з'яўляецца слухачом школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Часта бачым яго і на рэпетыцыях самадзейнікаў. І вось кожны раз яму вельмі хочацца хаця б крыху пайграць. Кіраўнік школы добры псіхо-



лаг. Ён адчувае Коліны жаданні, схільнасці і ідзе ім насустрач. Ён заўсёды дазваляе яму пайграць на скрыпцы і больш таго, паказвае, вучыць як трэба граць.

Уладзімір Пракапюк палюбіў Міколу Самоціка. Бачыў ён яго настойлівасць, упартасць у вучобе, жаданне як мага больш здабыць ведаў, імкненне працаваць на гаспадарцы па-новаму. А быць добрым гаспадаром — гэта складаная справа. Зусім нялёгкая прафесія земляроба. Яна вымагае вельмі многа ведаў. І Коля іх здабывае ўсё больш і больш. Восенню мінулага года ён здаў экзамен у завочны сельскагаспадарчы тэхнікум у Дайлідах (каля Беластока). Ужо адзін семестр мінуў. Час ляціць хутка. І Коля Самоцік пасля заканчэння сельскагаспадарчага тэхнікума будзе яшчэ лепш гаспадарыць. яшчэ больш будзе мець карысці і з жывёлагадоўлі. і з саду, і з апрацоўкі зямлі.

Бацька Колі, які памёр 8 год таму назад і аставіў яго 13-гадовым хлапчуком, быў кавалём. Цяжкае кавальскае рамясло. Але яно таксама прыцягвала Колю сваёю прыгажосцю. Вельмі прыемна распаліць жалеза і пасля вырабляць з яго ўсё, што захочаш. Коля нават нейкі час тэрмінаваў у каваля. І зараз у кузні, якая стаіць пры садзе, часта можна ўбачыць Колю. Ён падкоўвае каня, наладжвае воз, ці плуг. Суседзі прыходзяць не толькі да кузні. Іх цікавіць усё тое, што робіць Коля ў сваім садзе, якія дае мінеральныя ўгнаенні пад тую ці іншую культуру, як даглядае гародніну.

На самым пачатку вясны Коля абсталяваў інспекты з гароднінай. Была там у яго і капуста, і радыска, і салата і каляфьёры. Ды вырасла ўсё так добра, што аж воку прыемна глядзець.

Аб Міколе Самоціку расходзіцца добрая слава. Яго аўтарытэт яшчэ больш узрос, калі ён пачаў вучыцца завочна ў сельскагаспадарчым тэхнікуме. Кожны разумее, што працаваць на гаспадарцы і адначасова вучыцца — гэта пад сілу толькі вельмі настойлівым людзям.

(мх)

# ПРАЙШЛО 16 ГОД

працяг са стар. 1

му спулдзельня карыстаецца пашанай і даверам індывідуальных гаспадароў. Гэтую тэму сужыцця спулдзельцаў і аднаасобнікаў сам закрануў у размове са мной солтыс вёскі — Станіслаў Кучынскі — член спулдзельні прадукцыйнай.

— Вас напэўна гэта зацікавіць, — сказаў. — Напэўна!

І цяпер перадаю пачутае: Сужыццё — ідэальнае. Прыклады? Калі ласка! 2 месяцы таму адбыўся ў вёсцы сход, на якім гаспадары — аднаасобнікі сваю частку грошай з фонду развіцця сельскай гаспадаркі — 150 тысяч злотых — аддалі спулдзельні, каб яна, маючы шырэйшыя магчымасці і ходы, купіла за іх сельскагаспадарчыя машыны, з якіх будуць карыстацца супольна. Разумна — што?

— Напэўна спулдзельня заслужыла чымсь на давер аднаасобнікаў. Ці дагэтуль спулдзельня пазычала машыны неспулдзельцам? — былі мае пытанні. Пазычала. Ніколі не адмовіла, калі хто з неспулдзельцаў звяртаўся з такой просьбай.

— Мы часта адкладалі сваю працу, а машыну пазычалі, — кажа мой субяседнік.

Адлажылі крыху сваю працу — нічога дрэннага не сталася, але за тое прэстыж расце, дружнасць умацняецца, сімпатыя да спулдзельні родзіцца і сама спулдзельня расце. За апошні год 15 новых членаў уступіла ў яе.



Крывянская хата з ганкам.

фота. Я. Чэрнякевіч

### СЯБРОЎКА

Маня — мая сяброўка перад 16 гадамі — цяпер таксама належыць да спулдзельні. Я застала яе за швейнай машынай. Паплылі ўспаміны. Як добра паўспамінаць часы, калі былі толькі падлёткамі!

Маня змянілася, але толькі так, што зараз яна зрабілася высокай жанчынай са шчуплым тварам і прыемным сэрцашчыпацельным голасам. Маня гаворыць мне, што жыве добра, купіла сабе шафу, машыну, веласіпед і яшчэ іншыя рэчы, і я, гледзячы на пышныя падушкі на ложку, пацвярджаю, што мая сяброўка цяпер вельмі разбагацела. Працуе нямала — то праўда але і мае за гэта добрую заплату.

— А што ж ты замуж не выходзіш? — пытаю ў яе.

— А што, мне так кепска? — бесклапотна смяецца яна ў адказ.

Як жа змяніўся свет, думаю, і як добра, што гэтак змяніўся ў нас свет. Маня — дзяўчына з вёскі, нават без большай адукацыі, якая мае бадай 25 год, не мартвіцца, што не выйшла яшчэ замуж! То ўжо новае!

А як ўвогуле не выйдзе?

— А што я сабе рады не дам?

Я не вытрымала, крычу: «Брава Маня»! І яшчэ раз: «брава, Маня!» І «брава» кожнай дзяўчыне, якая пачула ў сабе сваю сілу.

І «брава» нашым дням, якія вызвалілі ў жанчыне яе годнасць і ў пыл рассыпаюць прадрассудак, што жанчына цалкам залежна ад мужчыны.

Каця — мая другая блізкая сяброўка (Маніна таксама) — прыбегла да Мані.

— Я так і думала, што гэта Вера пайшла, — сказала, ўбачыўшы мяне.

У Каці ўжо двое падросшых дзяцей. Выйшла замуж рана.

А я гляджу на маладжавы, свежы Манін твар і думаю, што яна нічога не прайграла і яшчэ вельмі маладая.

ВЕРА ЛЕЎЧУК

# ФЭСТ у НАРВЕ

**21 мая ў Нарве ў сувязі з Сялянскім святам адбыўся маладзёжны фэст, на якім выступілі гурткі мастацкай самадзейнасці Гайнаўскага павета, а таксама адбыліся спартыўныя спаборніцтвы і іншыя культурныя мерапрыемствы. Аб гэтым раскажуць нашы здымкі.**



Выступае хор з Курашава.



Пераможцы велагонкі (злева направа): Пётр Нічыпарук (ІІІ месца), Яўгень Пласковіч (І месца) і Мікалай Федарук (ІІ месца).



Дуэт з Семяноўкі.

 



Зацікаўленнем карысталася выстаўка аб дзейнасці БГКТ.



Латарэя «Дому Кніжкі» карысталася асаблівым поспехам сярод школьнікаў.
фота: Г. Рагазінскі

# Шлях аднаго гуртка

Ужо трэці год працуе ў Новакорніне тэатральны гурток. Яго праца шчыльна звязана з мясцовай школай сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, якая арганізавалася ў 1957/58 школьным годзе. Кіраўніком гуртка з'яўляецца настаўніца, Надзя Ражкевіч.

Самадзейная мастацкая праца ўнесла ў жыццё моладзі прыкметнае ажыўленне. Зімою 1958/59 г. г. гурток падрыхтаваў сцэнічны твор «Паўлінка» і танец «На рэчаньку». Першае выступленне адбылося 19 студзеня 1959 года. Яно было ўдалае і штурхнула моладзь да далейшай працы. Ужо ў сакавіку 1959 года на вясковай сцэне ставіліся п'есы: «Пярэстая красуля», «Мікітаў лапаць» і «Міхалка». Лета гэтага года не спрыяла мастацкай дзейнасці. Працы ў полі, выезд некалькіх удзельнікаў — усё гэта на пэўны час затармазіла самадзейную працу.

Аднак восенню, калі вечары сталі даўжэйшымі, а гаспадарскіх абавязкаў менш, дык тады моладзь ізноў прынялася за тэатральнае жыццё. Пачаліся працы над пастаноўкай «Прымакоў» і на польскай мове «Кактусіка», вывучэннем вершаў, жартаў і танца «Кракавяк». У студзені 1960 года жыхары Новакорніна захапляліся новай праграмай мясцовага гуртка. Пасля ўдалага выступлення новакорнінцы гастралявалі ў Курашаве, Новасадах і Новаберазове. Усюды пасля выступленняў арганізаваліся агульныя патанцоўкі мясцовай моладзі і артыстаў. Кожны хацеў бліжэй пазнаёміцца з «Адэляй», «Юлькай», «Грыпінай», «Яўгенем», «Саўкай» ужо не ў хустцы, са штучнымі вусамі.

Гэтыя мастацкія выступленні прынеслі новакорнінскаму самадзейнаму гуртку пэўны грашовы даход. Гэта дазволіла набыць адаптар з грампласцінкамі і наладзіць экскурсію ў Кракаў і Закапанэ.

Зімою 1961 года гурток узяўся за падрыхтоўку новых сцэнічных твораў: «Суд», «Боты» і на польскай мове «Пенкны відак», вершаў, гумару і сатырычных твораў. Апрацоўваўся таксама танец «Бярозка». Маладыя артысты ў той час прыступілі да конкурсу, арганізаванага Галоўным праўленнем БГКТ. Мастацкі гурток наведаў, у прыватнасці, Новаберазова і Дубіны. У конкурсе гурток здабыў трэцюю ўзнагароду: атрымаў дыплом, балалайку і гітару. Новакорнінскія самадзейнікі вядомыя на ўсю аколіцу. Іх усцяж запрашаюць суседзі на гастролі.

У красавіку г. г. быў наладжаны ў вёсцы кулінарны курс, у якім прымалі ўдзел нашыя дзяўчаты. Заканчэнне курсу супала з заканчэннем навучання ў школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Усе супольна адзначылі апошні дзень заняткаў. Урачыстасць закончылася вясёлай гульнёю.

Новакорнінскаму самадзейнаму гуртку аказвае дапамогу ў здабыванні рэпертуарнага матэрыялу ГП БГКТ. З вялікай радасцю моладзь успрыняла вестку, што Беларускае таварыства перасказала ёй народныя ўборы. Сур'ёзную дапамогу аказвае таксама Павятовы камітэт ЗМВ у Гайнаўцы.

У часе нядаўніх выбараў у Сейм і рады нарадовыя новакорнінская моладзь яшчэ перад шостай гадзінай прыехала ў выбарчы пункт, каб споўніць свой грамадзянскі абавязак. За сваю добрую грамадскую працу адзін з членаў гуртка, Мікалай Самоцюк, быў выбраны радным у мясцовую раду.

Новакорнінскі гурток мае пэўныя цяжкасці ў сваёй працы. У школе цесна, а святліцы дагэтуль няма. Трэба, каб моладзь узяла ў свае рукі ініцыятыву ў пабудове святліцы, якая так вельмі патрэбная на вёсцы. Новая святліца значна палепшыць мастацкую працу ў Новакорніне.

**Аляксандр Ражкевіч**
Новакорніна

# ФІНАЛ КОНКУРСУ ДЛЯ МАСТАЦКІХ ГУРТКОЎ

**(Працяг са стар. 1).**

здабылі мастацкія гурткі з Новакорніна (Гайнаўскі пав.), Шчытоў (Бельскі пав.) і Баршчэва (Беластоцкі пав.), якія абслужылі па 5 вёсак, за што атрымалі камплекты гітар і балалаек. Два чацвёртыя месцы прызнана мастацкім гурткам з Ляшукоў (Гайнаўскі пав.) і Галадоў (Бельскі пав.), якія абслужылі па 4 вёскі, за што атрымалі камплекты савецкіх пласцінак з папулярнымі песнямі.

Конкурс — «Найлепшыя беларускія мастацкія гурткі ў грамадскай працы» — быў аб'яўлены 1.X.1960 г. і закончаны 1 мая г. г. Яго арганізатарамі былі Галоўнае праўленне БГКТ і Ваяводскае праўленне ЗМВ

(СЯ)

# ПЕРАД ПЕРШЫМ ВЫПУСКАМ

**(Працяг са стар. 1)**

супрацоўнічалі са мною беларусы, паходзячыя з Беласточчыны. У 1955 годзе прыехала з Мінска ў Варшаву праф. Фідрэўская. Яна чытала лекцыі па беларускай мове ў Варшаўскім універсітэце. Слухачамі былі зацікаўленыя студэнты - філалогіі, м. інш., зараз асістэнт нашай кафедры мгр Смулкова. Гэта ўсё сталася прадпасылкай да арганізавання навучальнай адзінкі па беларускай філалогіі на акадэміцкім узроўні. У 1956 годзе Міністэрства вышэйшай адукацыі запрапанавала мне арганізаванне аддзялення Беларускай філалогіі.

**— Ці былі цяжкасці ў падборы спецыялістычнай кадры?**

— Так, былі. У Польшчы не было яшчэ тады спецыялістаў у галіне беларускай мовы і літаратуры. Дзеля вырашэння гэтай праблемы я звярнулася ў Міністэрства вышэйшай адукацыі, каб запрасіць прафесараў з Мінска. Адначасова трэба было рыхтаваць сваіх асістэнтаў. Як напэўна вядома чытачам «Нівы», першы курс беларускай філалогіі пачаў працу ў кастрычніку 1956 г. І тады ж прыехалі да нас з Мінска прафесары Тарасаў і Бірыла. Яны былі ў нас праз 2 гады. На наступныя 2 гады былі запрошаны, таксама з Мінска, прафесары Лазарук і Жураўскі. Пасля чатырох год мы засталіся самі.

**— У чым яшчэ праяўляецца кантакт з Савецкай Беларуссю?**

— Пабыўка мінскіх прафесараў дазволіла наладзіць нам не толькі непасрэдныя кантакты з навуковымі ўстановамі БССР, у якіх вышэй успамянутыя прафесары працуюць, але гэтыя кантакты пашырыць. Напрыклад, у 1959 г. наведалі нас прафесары Абэцэдарскі і Ларчанка і прачыталі некалькі лекцый па гісторыі Беларусі і гісторыі беларускай літаратуры.

Беларускае Таварыства культурнай сувязі з заграніцай і Акадэмія навук БССР прысылаюць нам навуковую літаратуру і навуковыя часопісы.

У час сваёй пабыўкі ў Мінскім дзяржаўным універсітэце мгр Смулкова правяла гутаркі аб беларускіх дыялектах Беласточчыны. 10 нашых студэнтаў у 1959 г. пабывала на 6 тыднёвай практыцы ў БССР, а ў 1960 годзе моўную практыку адбыло там 3 студэнтаў. У мінулым годзе дзве асобы з нашага аддзялення выехала на ІІІ курс беларускай філалогіі ў Мінск. Пабывалі ў нас таксама студэнты з Мінска, м. інш., сучасныя маладыя паэты Барадулін і Бураўкін.

**— Што зараз з'яўляецца прадметам навуковай працы кафедры? Ці пачынаюцца нейкія навуковыя доследы?**

— Прадметам навуковай працы нашай кафедры з'яўляецца цяпер апрацаванне польска - беларускага слоўніка, які будзе выдадзены магчыма ў пачатку будучага года. Я і праф. Бірыла з Мінска працуем над ім як аўтары. Беларуска-польскую частку слоўніка будзем апрацоўваць сумесна з Польскай акадэміяй навук.

Адносна доследаў. Вялікая прагала існуе яшчэ ў галіне даследванняў над дыялектамі і этнаграфіяй усходне - паўночнай часткі Беласточчыны. Зараз апрацоўваецца атлас беларускіх гаворак гэтай тэрыторыі.

Існуе недахоп перакладаў з беларускай мовы. Думаю, што будзе гэта пачэсная дзялянка працы для нашых абсальвентаў. Зрэшты, праблематыка навукова-даследчай працы будзе звязваць нашых абсальвентаў нават у час іх прафесіянальнай работы.

**— У чым спецыялізуюцца студэнты V-га курса?**

— Нашае аддзяленне мае дзве спецыяльнасці: мовазнаўчую і літаратуразнаўчую. На 13 студэнтаў на апошнім курсе 6 выбрала сабе першую спецыяльнасць, а 7 — другую. Апрача галоўных прадметаў, якімі з'яўляюцца беларуская мова і беларуская літаратура, навучальная праграма аддзялення прадугледжвае таксама дадатковы прадмет да выбару: польская або руская філалогія. Студэнты выбіраюць, у асноўным, польскую філалогію. Пасля вытрымкі экзамену яны будуць мець права выкладання польскай мовы да 9-га класа ўключна ў агульнаадукацыйных школах.

Затым, згодна з запатрабаваннямі, у праграме навучання прадугледжваецца педагагізацыю. Студэнты ІІІ і ІV курсаў слухаюць лекцыі па педагогіцы і методыцы навучання. Лекцыі чытаюцца ў польскай мове, а педагагічную практыку студэнты праводзяць у беларускіх школах на Беласточчыне.

Такім чынам абсальвенты падрыхтаваны да працы ў школе і працы культурна - асветнай. Знаёмасць дадатковага прадмета дае магчымасць большага выбару працы.

Хачу сказаць, што са сваіх студэнтаў я здаволена.

— Дзякуем за мілую гутарку і жадаем поспехаў у навуковай працы, а студэнтам V-га курса шчаслівай абсальвентуры.

**Размаўляў: М. Кураш**

## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!

**Прыпамінаем, што ўжо трэба зрабіць падпіску на „Ніву" на лета (III квартал).**



 




## ВЕГЕТАРЫЯНЕЦ

Перад членамі праўлення нашай ГС стаяла нямалая задача — паставіць прадаўца ў каўбаснай лаўцы.

Здаецца, справа не хітрая. Вызначыць прадаўца, вось і ўся мудрасць. Аднак аказваецца, што лягчэй паставіць тэлеграфны слуп, чым чалавека за прылаўкам. На такую пасаду патрабуецца чалавек з выключнымі якасцямі, каб пакупшчыкаў не абважваў і не аблічваў, крамы не акрадваў, аб начальніках помніў і аб іх жонках не забываў.

Як бачыце, мілыя чытачы, знайсці такога чалавека, гэта не фунт сальцісона з'есці. Галава тут патрэбна міністра, рука хірурга і вока паляўнічага, а сумленне зусім непатрэбнае.

У самы разгар спораў нехта высунуў кандыдатуру Сцяпана.

— Вось, маўляў, чалавек якога трэба. Вегетарыянец па паходжанні, ад мяса адварочваецца, гарэлкі і на хворы зуб не бярэ, а што капусту з бульбай грызе, гэта можна выбачыць. У каўбаснай няма гароднiны, значыць Сцяпан бясшкодны.

А трэба ведаць, што вопыт у гэтай справе члены праўлення мелі. Быў у нас прадавец фруктовай крамы. Ён пастаянна хадзіў падвыпіўшым. Глядзелі на яго праз пальцы.

— Сваю водку п'е чалавек. Значыць, непакоіцца няма патрэбы.

Аднойчы зрабілі рэманент у фруктовай краме. Спісалі ўсё належна, падлічылі і ахнулі. Аказалася 30 тысяч нястачы, як адзін грош. У судзе пасля выяснілася, што прадавец рабіў гарэлачну настойку на пятрушцы. Выходзіць, што ён на 30 тысяч злотых расходваў пятрушкі, а колькі на гарэлку выдаў, дык нават суд не мог удакладніць.

Зразумела, што Сцяпан апрача кефіра іншых спіртных напіткаў не піў. Вегетарыянцы наогул рэдка п'юць — ім жа закусваць няма чым. Таму кандыдатура Сцяпана сустрэлася з агульным адабрэннем. Не прайшоў і тыдзень, як Сцяпан у доктарскім халаце пачаў круціцца паміж каўбасамі і прылаўкам.

Прайшоў месяц і нехта паведаміў старшыню, што Сцяпан пачаў заглядаць да Марусі. Старшыня толькі рукамі развёў ад здзіўлення. Вегетарыянцу ж млосна робіцца ад мяса, а ў Марусі самае меншае шэсць пудоў жывой вагі. Між тым каляндарныя лісткі спадалі, як лісце з дрэў восенню. На Сцяпана ніхто з пакупшчыкаў не скардзіўся. А Маруся па-ўдавінаму хваліла яго перад кожным сустрэтым. Ды і як жа не хваліць такога чалавека. Вегетарыянец ад нараджэння, пры вяленых запахах увесь дзень стаіць, а ў рот нават кусочка каўбасы не возьме.

Пасля людзі пачалі ўсякае шаптаць аб удаве са Сцяпанам. Зрабілі праверку ў каўбаснай і атрымалі 3 тысячы лішкаў. Прышлося выставіць вегетарыянца з-за прылаўка.

Вось і дагадзі тут начальству. Нястачы караюцца, а лішкі таксама па галоўцы не гладзяць. А вось, каб так акуратна, цюцелька ў цюцельку, дык мала хто жыве ў нашым дзяржаўным гандлі.



**Не сорамна вам жабраць?**

**— З таго часу, як памерла мая мама, я застаўся без сродкаў да жыцця.**



**— Так, я заглядаў ёй цераз плячо, але гэта не мае нічога супольнага з перапісваннем..**

## Калі б звяры гаварылі



**— Чаго смяешся?**
**— Тэлеграма казыча ў пятку...**



**— Вось дык дзіўныя істоты: без галавы і без хваста...**

Жан Эфель.

Працоўныя Францыі далі катэгарычны адпор фашысцкім мяцежнікам, узначальваным былымі французскімі галоўнакамандуючымі ў Алжыры — Шалем і іншымі.



**— ГЭТЫ ШАЛЬ МНЕ НЕ ДА ТВАРУ!**




### АДКАЗАЎ

— Чаму ў цябе брудныя рукі? — пытае настаўнік вучня.

— Гэта ад сшытка, — адказаў той.

**Аркадзь Латоўкі**
Лесна

### У СТАЛОЎЦЫ

Адзін мужчына зайшоў у сталоўку з'есць абед. Афіцыянт падаў яму печаную гуску.

— Што ж гэта за гуска, — сказаў мужчына, паглядзеўшы на ежу. — Тут жа адны косці ды скура.

— А вы што, хацелі яшчэ пер'е? — здзівіўся афіцыянт.

**Андрэй Сідарук**
Сакі

### НЕ ДЛЯ ЖОНКІ

Аднойчы на вуліцы сустракаюцца два сябры. Адзін з іх пытаецца:

— Скажы, што купіць жонцы на імяніны?

— Купі ёй радыё, — адказаў той.

— Ээ!.. Гэта не для яе.

— Чаму? — спытаўся той здзіўлены.

— А ці ж яна хоча каго слухаць?!

**Тацяна Шаўчук**
Бельск

### КАЛІ ЖАНІЦЬ?

— Ведаеш, Марка, прыязджай да мяне на вяселле. Сына жаню.

— Дык ён жа яшчэ малады.

— У тым то і справа. Пакуль ён малады — дурны, дык я яго і жаню. Бо як пастарэе і падурнее, тады яго зусім не ажэніш.

**Яня Клімук**
Палічна

### У АПТЭЦЫ

У аптэку зайшоў старэйшы чалавек за купляй лякарства. За ім увайшоў малады элегант і, распіхаючыся, кажа:

— Вяльможны пане, пусціце мяне першага, я хуценька, толькі пігулкі куплю.

Раззлаваны мужык кажа:

— А я то што, каня купляю!

**Ніна Самусь**
Бельск



**— Каханы, а штучных кветак не было?**




## Пара замуж выйсці, доню

Пара замуж выйсці, доню,
Нашы хлопцы жэняцца.
Гады пройдуць, не дагоніш,
Маладосць не вернецца.

Мама, што зрабіць я маю —
Лёс не ўсміхаецца.
Як таго я пакахаю,
Хто не падабаецца.

Доню, хлопцаў шмат прыгожых:
Хведзя, Лёня, Колечка.
І пажарнік наш Сярожа —
Выбраць маеш волечку.

Калі, мама, мае Хведзя
Дзіўную традыцыю.
Толькі ў горад ён паедзе,
Пападзе ў міліцыю.

Леванём я пагарджаю —
Характар паганенькі.
Ён цвярозым не бывае,
Днём і ноччу п'яненькі.

Пакахала б Міхалая —
У горадзе ён вучыцца.
Кажуць, вёскі ўжо не знае,
З ім мне толькі мучыцца.

А пажарнік наш Сярожа
За высока цэніцца.
Надта важны ён вяльможа,
Са мной не ажэніцца.

Хіба выйду я за Вову —
І мець буду рацыю.
Хоць праз дзень не скажа слова,
Ўсё надробіць працаю.

**АНДРЭЙ САМАСЕЙ**